*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№15 кастрычнік 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

## ВЫБАР – 2001

***Аб'яўлены конкурс на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь***

Ініцыятыўная група ў складзе якой вядомыя і паважаныя ў краіне людзі: Генадзь Грушавы, Валерый Шчукін, Таццяна Ваніна, Васіль Шлындзікаў, Гары Паганяйла, Іосіф Сярэдзіч і іншыя заявіла аб стварэнні Грамадзянскага камітэта "**ВЫБАР-2001**".

Жыць так, як жыве Беларусь вось ужо шэсць гадоў, абрыдла бадай што ўсім. Усіх хвалюе адно і тое ж пытанне: "Хто выведзе краіну з тупіка?".

Няўжо 10-мільённая Беларусь так збяднела на разумных таленавітых людзей? Вядома ж не. "Выбар – 2001" плануе заняцца прадстаўленнем грамадскасці дэмакратычных лідэраў, здольных вывесці краіну з крызісу. "Выбар – 2001" будзе працаваць, каб у наступным годзе Беларусь зрабіла правільны, разумны выбар. Аб'яўлены пошук беларускага Каштуніцы. Канчатковы выбар – за народам!

## КУРАПАТЫ - ПРЫТУЛАК ДЗЯДОЎ



Сёлета Дзень памінання продкаў – Дзяды –прыпадае на 29 кастрычніка. У гэты журботны дзень па старадаўнім звычаі памянём добрым словам усіх, хто пакінуў гэты свет і хто дарагі нам, бо недарэмна жыў на гэтай зямлі. Паклонімся нізка слынным сынам і дочкам Беларусі, хто жыццё паклаў дзеля свабоды і светлай будучыні, знакамітым і малавядомым простым людзям, галоўным скарбам якіх былі годнасць і сумленне. Паклонімся памяці родных і блізкіх, знаёмых і незнаёмых – і зробім усё, каб прадоўжыць іх добрыя справы, ажыццявіць надзеі і мары. А яны спраўдзяцца, калі мы здолеем ўратаваць і адрадзіць, узняць да новага жыцця нашу Бацькаўшчыну, у гісторыі якой укладзена цаглінка кожнага прадстаўніка усіх пакаленняў нашых папярэднікаў.

Хай жыве іх светлая памяць у нашых сэрцах!

*(працяг на стар.5)*

## " ВЫБАРЫ ПРАЙШЛІ ПАСПЯХОВА "

Адшумелі выбары. Жыхары нашага раёна прынялі ў іх актыўны ўдзел і прагаласавалі ў большасці за В. М. Лектарава, які стаў дэпутатам. Да гэтага Лектараў быў дэпутатам ад Полацкай акругі. А былы бешанковіцкі дэпутат Р. Ананьеў гэтым разам цешыў канцэртамі жыхароў суседніх Чашніцкага і Лепельскага раёнаў і таксама стаў дэпутатам на новы тэрмін.

Падтрымка былых дэпутатаў сведчыць аб тым, што грамадзяне задаволены іх ранейшай працай, той палітыкай, якую яны праводзяць, тымі законамі, якія яны прымаюць. Дазволю сабе цытату з раённай газеты наконт гэтага: ***"Пераканаўчым пацвярджэннем усенароднай падтрымкі палітычнага курсу, які праводзіць кіраўніцтва краіны, сталі вынікі прайшоўшых выбараў".*** Ці разумеюць гэта тыя, хто галасаваў? Калі разумеюць, то чаму тады працягваюць скардзіцца, што жывуць усё горш і горш, што грошай не хапае, што цэны высокія і г. д.? Вядома, людзей шкада, яны выклікаюць спачуванне сваімі скаргамі, сваім бядотным жыццём. Але ж яны самі выбралі такую ўладу і такое жыццё! Ну, можа і не зусім самі. Крыху дапамаглі зрабіць выбар каму старшыня калгаса ці сельсавета, каму кіраўнік прадпрыемства. Такіх выпадкаў зашмат на кожным кроку. Улада сама сябе падтрымала рукамі людзей. Людзей, якія ніяк не могуць звязаць тое, як яны жывуць, з тым, як і за каго галасуюць на выбарах.

У наступным годзе будзем выбіраць прэзідэнта. Будзе магчымасць прагаласаваць не проста за Іванова-Пятрова-Сідарава, а выбраць сваю будучыню, будучыню сваіх дзяцей, сваёй краіны. Вучыцеся думаць, каб потым зноў на жыццё не скардзіцца.

***Я. МІРОН***

# ЯК МЫ НАЗІРАЛІ ЗА ВЫБАРАМІ

Назіранне за выбарамі - дазволенае заканадаўствам мерапрыемства. У Мінску быў створаны Цэнтральны Каардынацыйны савет па назіранню, які ўзначаліў М. І. Грыб. Быў створаны адпаведны савет і ў нашым раёне. Падабралі назіральнікаў, правялі з імі вучобу, размеркавалі іх на палову выбарчых участкаў па раёну (на жаль, на ўсе ўчасткі назіральнікаў не змаглі знайсці – пэўна слаба шукалі).

Бліжэй да выбараў спісак назіральнікаў крыху “заліхаманіла”: нехта ад’ехаў за мяжу, нехта захварэў, у некага з’явіліся неадкладныя асабістыя справы, а некаму проста жонка “не дазволіла”. Што ж, усё гэта зразумела. Назіранне за выбарамі не такая лёгкая справа, як здаецца. Асабліва калі назіранне праводзіцца не па загаду, не па ўказцы начальнікаў, то гэта ўжо мужны грамадзянскі ўчынак. І таму я вельмі ўдзячна ўсім, хто не пашкадаваў свайго часу і сіл і давеў гэту справу да канца, нягледзячы на ўціск і непаразуменне.

Чаму ўлада так спужалася нашага назірання? Калі не рыхтавалася ніякіх парушэнняў і фальсіфікацый, калі ўсё так дэмакратычна арганізавана, то чым могуць перашкодзіць назіральнікі? Ну няхай сабе сядзяць, лічаць прагаласаваўшых выбаршчыкаў, запаўняюць свае лісты, робяць копію пратакола.

Пра тое, што ўціск пачаўся, я даведалася ад свайго непасрэднага начальніка па рабоце. Аказваецца, з раёна яму ў Віцебск патэлефанавалі і мяне папярэдзілі, каб рыхтавалася да нейкай асаблівай праверкі. Пакуль не ўлезла “у палітыку” да маёй працы ніякіх прэтэнзій не было, першыя заўвагі атрымала назаўтра пасля ўдзелу ў веснавым “Маршы свабоды”. Тым больш не было дачыненняў з праваахоўнымі органамі. А тут і міліцыянты наведалі. Прама на кватэру завіталі намеснік начальніка РАУС маёр Г. А. Ткачонак з оперупаўнаважаным па крымінальных (!) справах капітанам міліцыі А. Г. Новікам. Вядома, ніякага дазволу на такі візіт у іх не было, але ж нехта накіраваў. У нас чамусьці з маленства міліцыянтамі пужаюць. Але хай іх баяцца тыя, хто парушае законы! Мы мірна пагутарылі, вось толькі газеты незалежныя яны адабралі і знеслі. І пратакол склалі, хоць ніякіх парушэнняў з майго боку не было.

А вось такі непрыкрыты уціск на назіральніка – гэта ўжо парушэнне нашмат больш сур’ёзнае, чым выдача бюлетэняў без прад’яўлення пашпартоў. Быў адпаведны ўціск і на іншых назіральнікаў. І я яшчэ раз хачу выказаць ім падзяку за тое, што не спужаліся, не збеглі, а вытрымалі і спакойна з гонарам працягвалі справу. Малайцы!

Дарэчы, не ўсе былі дапушчаны да назірання. На Беларускім выбарчым участку №15 старшыня камісіі М. М. Дубавец адмовіў назіральніку ў рэгістрацыі 10 кастрычніка, матывуючы тым, што выбары ўжо пачаліся. Паважаны Мікалай Міхайлавіч, выбары ў нас былі 15 кастрычніка, а 10-га пачалося толькі датэрміновае галасаванне.

Датэрміновае галасаванне праходзіла вельмі актыўна, асабліва на тых участках, дзе назіральнікаў не было. Па закону ў датэрміновым галасаванні могуць прыняць удзел толькі тыя грамадзяне, якія ў дзень выбараў не маюць магчымасці знаходзіцца па месцы свайго жыхарства. Цяжка паверыць, што нашы вяскоўцы сотнямі кінуліся ў нейкія паездкі за межы сваіх населеных пунктаў. Датэрмінова прагаласавала месцамі больш 20% выбаршчыкаў ( пры тым, што ў цывілізаваным свеце больш аднаго працэнта ўжо выклікае падазрэнні). Чаму ж не прагаласаваць, тым больш, што менавіта ў дні датэрміновага галасавання пачалі выдаваць калгаснікам то палучку, то грошы за малако. Быў наладжаны падвоз на ўчасткі і самі старшыні калгасаў і сельскіх саветаў ласкава запрашалі прыняць удзел у галасаванні.

Не менш парушэнняў было і з галасаваннем па месцы знаходжання выбаршчыка. На некаторых вясковых участках на даму прагаласавала больш выбаршчыкаў, чым на саміх участках. Пра ўсё пісаць – месца не хопіць. Выбары прайшлі, цяпер у нас ёсць прадстаўнік у Палаце. Будзем спадзявацца, што пасля выбараў убачым яго хоць па тэлевізару. На сустрэчах з выбаршчыкамі ён так упэўнена расказваў, як яны там шмат працавалі, колькі напрыймалі законаў, якую адказнасць адчуваюць. Вось толькі жыццё наша лепшым чамусьці не становіцца. А хацелася б крыху пажыць, проста пажыць, а не змагацца за выжыванне, як зараз.

***В. Гракун, старшыня Бешанковіцкага Каардынацыйнага савета па назіранню за выбарамі***






У кастрычніку прайшоў “Марш Свабоды 3” у Мінску і яшчэ ў 22 буйных гарадах Беларусі.

“Беларусь не аддадзім” – такі транспарант неслі ў калоне некалькі хлапчукоў. Крочыла будучыня Беларусі - свабоднай, заможнай і шчаслівай краіны, якой яна абавязкова стане.

*На здымках: моманты “Маршу”.*

# ЗАРОБКІ ЗА МЯЖОЙ



Сядзіба нямецкага фермера. Паўночны- Рэйн-Вестфалія.

Пабыць у Германіі тыдзень-другі або нават цэлы месяц можа кожны, хто мае там добрага знаёмага ці сябра. Запрашэнне на адзін месяц будзе каштаваць для яго ўсяго 40 дойчмарак і для вас яшчэ 30. Трохі даражэй абыйдзецца дарога: 120-150 ДМ, калі ехаць на турыстычным або рэйсавым аўтобусе. З Мінска раз у тыдзень рэгулярна ходзіць аўтобус Мінск-Мюнхен.

Дамовіліся з сябрам па тэлефоне і вось ён ужо сустракае вас на вакзале і вязе на сваім аўто дахаты. Дабірацца поездам я б не параіў. Звычайна даводзіцца рабіць некалькі перасадак. Расклад руху складзены так, што поезд стаіць на станцыі 4 хвіліны і без добрага ведання мовы можна проста заблудзіцца ў краіне,шчыльнасць насельніцтва якой разоў у 6 большая, чым у нас.

Паехаць проста турыстам могуць дазволіць сабе не многія беларусы, не па кішэні нам такая раскоша. Але ж там на кожным кроку можна знайсці магчымасць заробіць грошы. Праўда, без пратэкцыі, толькі таму, што вы рускі (пра Беларусь за мяжой мала хто ведае) немцы наперабой да вас не кінуцца. Пры ўсёй вашай стараннасці і таннасці вашай працоўнай сілы, нягледзячы на прыбытак, які дасць выкарыстанне вашай працы, не кожны рызыкне наняць вас, бо гэта пагражае гаспадару вялікім штрафам. Але свет не без добрых людзей, і тут ёсць людзі, якія любяць "піць шампанскае", гэта значыць рызыкаваць. Калі вы працуеце ў баўэра (фермера), то паліцыя вас наўрад ці патурбуе. Гаспадар заўсёды лёгка растлумачыць ім, што вы ягоны госць і працуеце не за грошы, а каб набрацца вопыту ці атрымаць асалоду.

Складаней на будоўлі. Працаваць пасля 18 гадзін і ў нядзелю, як гэта робяць нашы "шабашнікі", тут нельга, бо гэта вельмі кідаецца ў вочы суседзям і выклікае падазрэнне, немцы так не працуюць. Сярод нямецкіх суседзяў, як і ў нас, трапляюцца і такія, што патэлефануюць "куды трэба". Штраф гаспадару і ваша высылка за межы краіны з непазбежнай забаронай уезду на працягу наступных пяці гадоў наўрад ці вас узрадуе.

І ўсё ж, праявіўшы настойлівасць, уладкавацца на працу вы зможаце. Плоцяць 3-6 марак за гадзіну, калі вы будзеце харчавацца і жыць у гаспадара і 10-15 калі вам не трэба даваць ежу і начлег. Такім чынам за дзень атрымліваецца 40-80 марак, што дазволіць вам за першы ж тыдзень разлічыцца з затратамі на падарожжа, а пасля і сабраць нейкі капітал.

Харчаванне і начлег будуць каштаваць даволі шмат. Асобны пакой у гатэлі – каля 20 марак за суткі. На ежу ў дзень хопіць з ліхвой 10 марак

Цэны ў рублях не вельмі адрозніваюцца ад нашых. Цукар каля 650 рублёў за кг, яйкі – 700-800, мёд – 2000 паўлітра. Хлеб звычайны – 700-900 рублёў за кілаграм, а 500-грамовы пакунак зерневага –900 рублёў. Крыху даражэй малочныя прадукты: малако або кефір 450 руб/літар, цвёрды сыр 7000 за кілаграм. Затое цэны на мяса і мясныя вырабы (каўбасы) не вельмі адрозніваюцца ад нашых: курыныя галёнкі – 2500, цяляціна – 5000, свініна 1300-3000руб. Але якасць непараўнальна вышэйшая, чым у нас. А вось гарэлку дзешавей піць дома, бо ў Германіі яна 4500 за 0, 7-літровую бутэльку, цыгарэты – 2250 за пачак. Піва – 450 рублей паўлітра. Цэны пералічаны па курсе 1ДМ - 450 беларускіх рублёў.

Спажывецкія тавары даволі танныя, пры добрай нямецкай якасці вырабаў. Напрыклад мужчынскія зімнія боты – 16000 рублёў, красоўкі любога памеру – 9000руб. Вядома, берагчы кожную капейку вы не зможаце, але даводзіцца гэта рабіць, ведаючы, што чакае дома, у Беларусі.



Альтанка, якую я дапамагаў будаваць.

Час, праведзены ў Германіі, не будзе марна патрачаным. Вельмі цікава паглядзець на ўсё сваімі вачыма. Асабістыя назіранні і параўнанні могуць даць вам штуршок магчыма да палітычнай актыўнасці, магчыма для вывучэння замежнай мовы ці для простай чалавечай зайздрасці: "жывуць жа людзі..." Але немцы ўсяго дабіліся самі. І за нас ніхто не зробіць наша жыццё лепшым. Шкада толькі, што ў вечным змаганні за нейкую недасягальную светлую будучыню, мы амаль нічога светлага не бачым сёння.

*Г. Станкевіч*

## *УВАГА ! - КОНКУРС :* "Лёс маёй сям'і ў вірах XX стагоддзя", або "XX стагоддзе: Лёс майго роду і маёй Радзімы"

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі і фундатарамі з Нямеччыны і Польшчы праводзяць трэці даследчы конкурс па гісторыі для школьнікаў.

У конкурсе могуць прыняць удзел вучні школ, пачынаючы з 7 класа, навучэнцы ліцэяў, гімназій, ПТВ. Усе, каго цікавіць гісторыя, хто не пашкадуе часу, каб пакорпацца ў бібліятэках і архівах, каго захапляюць адкрыцці, спасціжэнне нязведанага, могуць паспрабаваць свае сілы.

Час напісання конкурснай працы : з 15 кастрычніка 2000 года па 1 траўня 2001 года.

Будзе прысуджана 6 першых, 10 другіх і 15 трэціх прэмій.

**Прызы атрымаюць усе удзельнікі конкурсу!**

Правілы падрыхтоўкі конкурснай працы.

а) працу можна рабіць індывідуальна або групай, самастойна, або з дапамогай кіраўніка. Кіраўніком можа быць настаўнік, выхавацель, бібліятэкар, бацькі, старэйшыя браты і сёстры і г. д. Самыя актыўныя навуковыя кіраўнікі таксама атрымаюць прызы!

б) форма працы можа быць адвольнай: сачыненне, эсэ, інтэрв'ю, калаж з фотаздымкаў, фільм і г. д. Галоўнае, каб праца была творчай. У выпадку нятэкставых формаў (аўдыё, відэа, фота) да працы павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследвання або заключае каментар да крыніцаў.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове. Тэксты крыніцаў можна падаваць у арыгінале.

в) праца можа быць надрукавана або напісана ад рукі. Галоўнае, каб яна была зроблена акуратна, напісана разборліва, мела тытульны аркуш, а таксама анкету удзельніка, якую вы можаце замовіць у Бешанковіцкай суполцы ТБМ па тэл. 2-26-93.

Рада і журы конкурсу складаецца з вядомых навукоўцаў і грамадскіх дзеячоў.

Асаблівая ўвага пры разглядзе будзе звернута на :

- тэму (фармулёўка, адпаведнасць зместу сфармуляванай тэме)
- матэрыял ( каштоўнасць і цікавасць сабранага матэрыялу)
- даследчае майстэрства (уменне рабіць высновы, зыходзячы з сабранага матэрыялу)
- уменне паказаць сабраны матэрыял у кантэксце (бачанне ўзаемасувязі знойдзенага матэрыялу з агульнагістарычным кантэкстам)
- кампазіцыю (логіка працы, структура)
- афармленне працы (акуратнасць, наяўнасць зместу, спасылак, спісаў выкарыстанай літаратуры альбо іншых крыніц).

Працы дасылаюцца на адрас:
**Каму: "Блізкая гісторыя"**
**Куды: а/с 128, г. Менск, 220064.**

Вынікі конкурсу будуць падведзены 8 ліпеня 2001 года.

Усе працы будуць захоўвацца, лепшыя будуць надрукаваны ў зборніку конкурсных прац, а таксама ў перыядычных выданнях.

З пытаннямі можна звяртацца на адрас: "Блізкая гісторыя", а / с 128, 220064, г. Менск, тэл. 227-51-09. Сакратар конкурсу Ірына Віктараўна Коваль.

Метадычныя матэрыялы таксама змешчаны ў газеце "Наша слова".

**Жадаем захапляльнай працы і цікавых адкрыццяў!**

## *Васіль Лявонаў:* "ЧАСУ НА ПАМЫЛКІ НЯМА"

У кастрычніку з калоніі узмоцненага рэжыму выйшаў на свабоду былы міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Васіль Лявонаў, які адсядзеў тры гады па даволі спрэчных абвінавачваннях. Цікавасць да гэтага чалавека вялікая, таму мы перадрукоўваем у скарачэнні інтэрв'ю з ім з "Народнай волі".

***Васіль Севасцьяначіч, наш агульны знаёмы, загінуўшы ў магілёўскай турме Валерый Ткачоў, казаў: грамадзянская ўлада несправядлівая, крымінальная справядлівей. Ці так гэта?***

- "Зона" – панящце шырокае. Яе законы дзейнічаюць і па той бок калючага дроту, і па гэты. Там паханы і тут яны ж. Караюць і мілуюць не па законах, а "па паняццях". А паняцці ў кожнага свае.

***Што Вы скажаце пра ўмовы ў турме?***

- Туды пасылаюць не для папраўкі здароўя. Пазбаўляюць не толькі волі, але яшчэ і сонца, паветра, добрай ежы, адпачынку. Сістэма працуе на тое, каб разлдаваць чалавека спачатку супраць "мянтоў", супраць улады, потым супраць усіх.

***Што больш за ўсё ўразіла на волі?***

- Цэны. Я працаваў у Германіі, дык у Мінску сёння многія прадукты даражэй, чым у Берліне. А там жа сярэдні заробак – 5000 марак. Як у нас людзі выжываюць – не разумею. Цэны вышэй, чым у Маскве і ў Кіеве. У 1998 прадукты яшчэ ў Расію вывозілі, а зараз адтуль вязуць, там танней.

***У чым жа прычына?***

- Калгасная сістэма – пачварны гібрыд трацкісцкіх працоўных калоній і прыгону. Прыгонны працаваў за палову ўраджаю. Сёння селяніну і палову не плоцяць. Калгаснік пазбаўлены усякіх правоў. Калгасная сістэма нічога не стварае для дзяцей і ўнукаў, трымаецца на тым, што было некалі пабудавана і куплена.

***Дзе ж выйсце?***

- Зямля павінна належыць селяніну. Ён сам вырашыць: узяць лапату, купіць каня ці трактар, або аддаць яе ў арэнду ці злучыць свой надзел з суседнім. І тады ім не пакамандуеш, ён сам будзе галасаваць не так, як загадаў старшыня. Менавіта для захавання ўлады і захоўваюцца калгасы.

***Як Вы ацэньваеце сітуацыю ў краіне?***

Усё ідзе ад дрэннага да горшага. Наўкол жабрацтва, азлобленасць. Прайшоўшыя выбары – гэта фарс. Наогул, Палату лепш бы замяніць на 10 кваліфікаваных юрыстаў, якія б пісалі пажаданыя Лукашэнку законы. Было б танней і без падману.

***Ці будзеце ўдзельнічаць у палітычным жыцці?***

- Магчыма. Але мне ўжо 63 гады, часу на памылкі няма, трэба ўсё разлічыць.

***Анатоль Гуляеў***

# КУРАПАТЫ - ПРЫТУЛАК ДЗЯДОЎ



***(Крыж Пакуты ў Курапатах)***

***(пачатак на стар.1)***

На Дзяды, 29 кастрычніка прыпадае трагічная дата нашай гісторыі. Менавіта 29 кастрычніка 1937 года ў Курапатах сталінскія карнікі праводзілі першыя масавыя забойствы беларускай інтэлігенцыі. У гэты страшны дзень быў расстраляны Браніслаў Тарашкевіч.

Забівалі палітычных вязняў і ў наступныя дні. Першага лістапада каля магільнага курапацкага рова стаялі святары Беларускай аўтакефальнай царквы. І яны палеглі ў брацкай магіле.

З 1937 па лета 1941 года ўрочышча Курапаты прымала ў свае пякельныя равы тысячы застрэленых нявінных людзей. Тут адымалі жыццё ў беларускіх вучоных, настаўнікаў, літаратараў, палітычных дзячоў, афіцэраў і сялян. Па падліках даследчыкаў, Курапаты – гэта месца масавага вынішчэння каля 250 тысяч чалавек.

Курапаты – горасны сімвал таго бязлітаснага генацыду, які праводзіла таталітарная імперыя супраць народа, сімвал пакутаў, якія давялося перажыць Беларусі ў сталінскія часы.

На дзяды кожны чалавек узгадвае сваіх родных і блізкіх. Але тысячы людзей, цэлыя сем'і знікалі бясследна, пра іх не засталося каму ўзгадаць, запаліць зніч у іхнюю памяць. Татальны генацыд пачаўся на Беларусі з 1928 года, калі душылі моладзь, якая не прымала камсамольскай ідэалогіі. У 1930 пачалі "раскулачванне": першыя 19 000 найлепшых сельскіх гаспадарак, самыя працавітыя беларускія сем'і, былі выселены ў Сібір, дзе большасць з іх і загінула. Наступныя "этапы" звезлі з савецкай Беларусі яшчэ 700 000 чалавек сельскага насельніцтва.

Варта прыгадаць пра 10 000 сялянаў, кінутых у лагеры ў 1934 годзе за так званы крадзёж на калгасным полі, па законе "5 каласкоў". І пра 100 000 жыхароў Заходняй Беларусі, якіх вывезлі з радзімы ў Казахстан у 1940 годзе.

Наш народ верыць, што людзі, якіх няма сярод жывых, у Дзень памяці прыходзяць на памятныя для іх мясціны. 29 кастрычніка ўсім сваім 250-тысячным мноствам з'яўяцца яны ва ўрочышчы Курапаты, дзе абарвалі іхняе жыццё. Ушануем іхнія пакуты.

У Курапатах да гэтай пары няма помніка загінуўшым. Таварыства "Мартыролаг Беларусі" заклікае грамадскасць распачаць акцыю ўсталявання крыжоў на кожнай курапацкай магіле. Першыя крыжы там ужо стаяць, на Дзяды падчас жалобнага наведвання Курапатаў гэта справа будзе працягнута. Па колькасці пахаванняў такіх крыжоў мусіць быць больш за 600. Курапацкі лес крыжоў будзе нагадваць людзям аб ахвярах сталінскага часу, аб тым як свае забівалі сваіх. Да гэтай пары магілы ў Курапатах нічым не пазначаныя, зарастаюць травой і кустамі. Некаторыя людзі, што прыходзяць у гэты лес нават і не ведаюць ці не ўсведамляюць, што гэта месца дзе вяліся расстрэлы - святое.

# АДНА КІЛЬКА Ў ДЗЕНЬ – УЛОЎ БЕЛАРУСА

Паслухаеш беларускае радыё ды тэлебачанне – душа радуецца: рэальныя даходы насельніцтва павялічваюцца, валавы унутраны прадукт расце. Паглядзіш у кашалёк, пагутарыш з суседзямі і знаёмымі – ніхто гэтага росту не адчувае. Наадварот, усе ледзь зводзяць канцы з канцамі, каб пракарміцца, а калі трэба нейкую рэч купіць – гэта ўжо стыхійнае бедства для ўсёй сям'і. Гэта асабістыя назіранні, але і статыстыка сведчыць, што больш за палову насельніцтва мае даходы ніжэй пражытачнага мінімуму, гэта значыць - знаходзіцца за рысай беднасці. І колькасць такіх сем'яў павялічваецца.



Скарачаецца ўзровень спажывання асноўных прадуктаў харчавання. Так у 1990 годзе мяса выкарыстоўвалі ў сярэднім па 75 кг на чалавека за год. У 1995 – па 51, 6 кг, а ў 1999 – усяго толькі па 48 кілаграмаў на чалавека. Ужыванне рыбы ў сярэдняй сям'і звялося да 9,4 кілаграма ў год, або па 26 грамаў у дзень на чалавека. Якраз па адной кілечцы выходзіць.

# Усміхніцеся па-беларуску

## *Гэта было...*

**ТРЭБА БАРАНІЦЬ!**

Вось кажуць: трэба меней піць,
Бо гэтым ганьбім мы дзяржаву.
А што яна мецьме рабіць,
Калі пяройдзем мы на каву?

Адкуль тады ёй грошы ўзяць
Калі не стануць разам людзі
Тавар гарэлачны купляць,
Дык што, скажыце, з намі будзе?

Таму патрэбна бараніць
Тых, хто казне дапамагае,
Хто чэсна п'е і будзе піць
Усё, што дзяржава выпрабляе.

Урад са мной у згодзе жыць
Павінен, ён пра гэта знае.
Таму мой заклік: "Будзем піць!"
Абавязкова падтрымае.

А, калі не, - пайду ў пікет
Да тых, каму патрэбна мова.
(Во дзівакі, нібыта свет
Без нашага сканае слова!)

Лічу, што мова не цяля,
Яна ні есць, ні піць не просіць.
З ёй разбярэмся апасля,
Калі гарэлкі будзе досыць...

***Ф. Шкірманкоў***

**ЗАЛЯЦАННІ**

Ад світання да змяркання
Заляцанні, заляцанні...

Мілая Мальвіна,
Пачакай ля млына.
Мілая Хадора,
Мне з табой не гора.
Мілая Марыля
Поліўку зварыла,
Але да Рагнеды
Я прыйду к абеду.
І зайшоў бы к Домне,
Ды баюся – цёмна.
Шчэ чакае Ніна,
Але – халадзіна.
Суседка Анісся,
Ты хоць адчапіся,
Бо такое гора:
Раўнуе Тадора,
Падзывае Зіна,
Міргае Яніна,
Маня каля плоту
Чакае ў суботу.
Забыўся наведаць
Таццяну ў сярэду.
Сумуе Маруся,
Пайду, бо спазнюся.

***М. Жураўскі***



**Беларускае багацце**

**НАПАЛОХАЎ**

Прычапіўся раніцай мужык да жонкі: - Дай апахмяліцца!
- Адчапіся, ты і так кожны дзень п'яны. Няма гарэлкі!
- Ну не дасі апахмяліцца, дык я пайду і павешуся, - прыгразіў мужык.

Пайшоў ён у прыбудову, узяў дзве вяроўкі, прывязаў абедзве за бэльку пад страхой. Адну вяроўку, прапусціўшы пад адзеннем прымацаваў да рэменя за спіной, а другую накінуў на шыю ў выглядзе пятлі. Прыладзіўся і вісіць, чакае пакуль жонка зойдзе ў прыбудову па дровы. Тая ўбачыла "вісельніка", залямантавала, кінулася да суседкі, а потым яшчэ за падмогай пабегла. А суседка вырашыла выкарыстаць момант. У той самай прыбудове стаяла бочка з салам. Суседка і ўзяла ладны кавалак. Толькі хацела вынесці, як пачула голас "вісельніка": - Пакладзі сала на месца! Суседцы са страху і мову заняло. Тут жонка прывяла міліцыянера, а суседка ўжо нічога вымавіць не можа, толькі пальцам паказвае. Міліцыянер прыставіў лесвіцу, прымасціўся і паласнуў нажом па вяроўцы, а мужык, каб не павіснуць на сапраўднай пятлі, у гэты момант абхапіў яго за шыю. Так і грымнуліся зверху ўдвух. Тут адразу і апахмелка знайшлася.

## БУТЛЯ У РЭШАЦЕ

Адзін чалавек гнаў у лесе самагонку. Участковы высачыў яго і застаў на месцы злачынства. Мужык кінуўся ўцякаць, прыхапіўшы поўную бутлю. Сцежку па лесе ён ведаў карацейшую і дабег да ўласнай хаты першым. Участковы бачыў, як мужык з бутляй толькі што заскочыў у хату. Заходзіць. Гаспадар сядзіць за сталом і, як ні ў чым не бывала, газету чытае.
-Дзе бутлю дзеў?
-Якую бутлю?
-Ты ж толькі што бег з бутляй! Дзе самагонка?
-Няма ў мяне ніякай самагонкі. Не верыш - шукай.

Участковы ўсю хату перарыў, бутля ж не іголка, але не знайшоў. Стаміўся і просіць мужыка: - Я табе нічога не зраблю, толькі пакажы, дзе ты бутлю схаваў.
- Вунь вісіць у рэшаце, - паказаў гаспадар на сцяну, дзе сапраўды вісела рэшата для зерня. А бутля якраз памясцілася ўнутры, праз сіта яе не было відаць, ды й не глядзеў туды ўчастковы, якая ж гэта хованка – на віду вісіць.

***В. Гракун***

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы". № 15, кастрычнік 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч, Уладзімір Асокін. Кампьютэрны дызайн і вёрстка: А.Каліноўскі.
Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна.
Тэл. 2 – 26 – 93, 211 350, Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.